# Голас Радзімы

№ 13 (2051)
31 сакавіка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Троіцкае прадмесце — гэта куток ціхага старога Мінска сярод сучасных гмахаў, шумнага гарадскога транспарту, вірлівага жыцця, што кіпіць навокал. Гэта частка старажытнага горада пачала фарміравацца ў XII—XIII стагоддзях на левым беразе Свіслачы, каля падножжа так званай Троіцкай гары. Да апошняга часу захаваўся квартал з характэрнымі рысамі планіроўкі і пабудоў сярэдзіны [illegible] стагоддзя, пераважна двух- і трохпавярховыя жы[illegible] дамы, на першых паверхах якіх размяшчаліся майстэрні, крамы і іншыя гандлёвыя ўстановы.

Пачынаючы з 1982 года ў Троіцкім прадмесці вядуцца рэстаўрацыйныя работы. У старых дамах ахвотна сяляцца мінчане, таму што кватэры яны тут атрымліваюць су[illegible]ныя, з усімі выгодамі. Знешні ж выгляд пабудоў рэ[illegible]ратары імкнуцца захаваць такім, якім быў ён у мінулым стагоддзі. На першых паверхах, як і раней, адкрыты кафэ, кнігарні, цырульня, аптэка. Ёсць тут і музеі, і выставачная зала. Аднаўленне гэтага дарагога сэрцу мінчаніна кутка працягваецца.

НА ЗДЫМКАХ: від на Троіцкае прадмесце з праспекта Машэрава; нядаўна тут адкрыўся новы магазін «Шкло—фарфор», дзе прадаецца прадукцыя шклозавода «Нёман», Барысаўскага шклозавода, Мінскага і Добрушскага фарфоравых заводаў (два здымкі злева); ветліва сустракае пакупнікоў прадавец Святлана РОГАВА.

Фота С. КРЫЦКАГА і У. ШУБЫ.





З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# ПЕРАБУДОВА Ў ВЁСЦЫ

23—25 сакавіка ў Маскве праходзіў IV Усесаюзны з'езд калгаснікаў, на які сабраліся больш за чатыры тысячы дэлегатаў — лепшых прадстаўнікоў вёскі краіны. Яны абмяркоўвалі самыя надзённыя пытанні і задачы, што стаяць перад аграпрамысловым комплексам, у тым ліку перад калгасамі, раіліся, як працаваць ва ўмовах гаспадарчага разліку, самаакупнасці і самафінансавання.

У рабоце ўсесаюзнага форуму прынялі ўдзел звыш двухсот пасланцоў нашай рэспублікі. Сярод іх вядомыя сёння на ўсю краіну старшыні калгасаў — двойчы Героі Сацыялістычнай Працы Уладзімір Бядуля, Уладзімір Ралько, Васіль Старавойтаў. Дарэчы, У. Бядуля вёў адно з пасяджэнняў з'езда.

На з'езд прыбылі дэлегацыі кааператыўных, сялянскіх саюзаў і асацыяцый дваццаці двух краін.

На з'ездзе выступіў з прамовай Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Ён засяродзіў увагу прысутных на стратэгіі і тактыцы перабудовы ў вёсцы, заснаваных на ленінскіх ідэях кааперацыі ў прымяненні да сучаснага этапу.

У сваім выступленні М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што неабходна і далей аваладваць новымі прынцыпамі гаспадарання. Яны леглі ў аснову і такога важнага дакумента, як праект Закона аб кааперацыі ў СССР. У. І. Ленін у свой час грунтоўна паказаў, што ва ўмовах, калі дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках працоўных, калі сацыялістычная дзяржава валодае зямлёй і асноўнымі сродкамі вытворчасці, калі яна кіруе дзейнасцю кааператываў, — у гэтых умовах рост кааперацыі тоесны росту сацыялізму. Другая глыбокая ленінская ідэя заключаецца ў тым, што пры сацыялізме кааператыўныя прынцыпы арганізацыі гаспадаркі адкрываюць эфектыўны шлях спалучэння інтарэсаў усіх удзельнікаў грамадскай вытворчасці, з'яўляюцца ўдалай формай злучэння гаспадарча-разліковай вытворчай дзейнасці з самакіраваннем народа. Аднак ленінскія наватарскія ідэі аб кааперацыі ў далейшым былі сур'ёзна збеднены. Усё іх багацце было зведзена да «Кааператыўнага плана», згодна з якім кааператывы маглі існаваць у асноўным у вёсцы, ды і то практычна ў адной адзінай форме — у выглядзе сельскагаспадарчых арцелей. Пры гэтым калгасам адводзілася роля малодшых партнёраў дзяржаўнага сектара.

Гаворачы пра аднаўленне ленінскіх прынцыпаў кааперацыі, прамоўца сказаў пра тое, што ўносіцца рад новых прынцыповых палажэнняў, якія непасрэдна датычаць калгасаў. Уяўляецца абгрунтаваным поўнасцю зняць абмежаванні на іх падсобную дзейнасць. Цяпер калгасы могуць перадаваць у арэнду як іншым прадпрыемствам, так і асобным грамадзянам частку замацаванай за імі зямлі і сваіх асноўных фондаў, ствараць разнастайныя сельскія кааператывы, займацца знешнеэканамічнымі аперацыямі. Разам з тым прадугледжваецца і магчымасць ліквідацыі дрэнна працуючых кааператываў, пазбаўленне іх права выкарыстоўваць зямлю.

Калгасы, маючы магутны вытворча-эканамічны і кадравы патэнцыял, адыгрываюць вялікую ролю ў харчовым і сыравінным забеспячэнні краіны, сказаў М. С. Гарбачоў. Яны даюць амаль палавіну прадукцыі, якую атрымліваюць у абагуленым сектары сельскай гаспадаркі. Абапіраючыся на маштабныя эксперыменты, праведзеныя ў апошні час, выкарыстоўваючы набыты вопыт, з гэтага года на новыя метады гаспадарання перайшлі больш як 60 працэнтаў усіх гаспадарак. Сярод іх былі названы і беларускія. Гаворачы аб эфектыўнасці падрадных форм арганізацыі працы, М. С. Гарбачоў у якасці прыкладу назваў калгас імя Жданава Клецкага раёна Мінскай вобласці.

У сваім выступленні Генеральны сакратар ЦК КПСС падкрэсліў, што нашы калгасы і саўгасы застаюцца асновай сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці. І мы не пададзімся заклікам — вельмі няпэўным, а галоўнае — неабгрунтаваным, — разглядзець наогул лёс калгасаў і саўгасаў. Калі ўжо і разглядаць іх лёс, то толькі з пункту погляду ўсебаковага раскрыцця іх патэнцыялу.

Далей прамоўца спыніўся на шляхах павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, мадэрнізацыі яе структуры, выказаў меркаванне наконт змяненняў у Статуце калгасаў. Тут ён падкрэсліў перш за ўсё калгасную дэмакратыю. У канцы свайго выступлення М. С. Гарбачоў сказаў, што нам даводзіцца сёння многае ацэньваць нанава, многае пераасэнсоўваць, адмаўляцца ад таго, што тармозіць і збядняе наша жыццё. Але гэта не адмова ад сацыялізму, яго ідэалаў і прынцыпаў, а збаўленне іх ад карозіі. Мы можам і абавязаны адрадзіць ленінскае аблічча сацыялістычнага грамадства — самага чалавечнага і самага справядлівага. Мы цвёрда і няўхільна будзем прытрымлівацца рэвалюцыйных прынцыпаў перабудовы: больш публічнасці, больш дэмакратыі, больш сацыялізму.

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З БЕНІНА

У Мінску знаходзілася дэлегацыя Партыі народнай рэвалюцыі Беніна, якую ўзначальваў член Палітбюро ЦК ПНРБ, загадчык аддзелаў сацыяльных спраў і ідэалагічнага Жазеф Дэгла, якая прыбыла ў СССР па запрашэнню ЦК КПСС.

Госці былі прыняты ў ЦК Кампартыі Беларусі. У час гутаркі іх азнаёмілі з працэсамі перабудовы і абнаўлення ва ўсіх сферах, шырокай дэмакратызацыі грамадскага жыцця.

Кіраўнік дэлегацыі расказаў аб намаганнях ПНРБ па вырашэнню задач сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Члены дэлегацыі наведалі Мінскую скургалантарэйную фабрыку імя Куйбышава, сярэднюю школу.

Госці азнаёміліся з экспазіцыямі Дома-музея I з'езда РСДРП, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

У праграму знаходжання дэлегацыі было ўключана наведанне жывёлагадоўчай доследна-вытворчай гаспадаркі «Будагова», паездка на мемарыяльны комплекс «Хатынь».

ДЗЕЛАВЫЯ СУВЯЗІ

## «ДНЕПР» — «НАСЕГНЕВА»

Расада новага гатунку салодкага перцу з гучнай назвай «каліфарнійскі цуд» высаджана ў цяпліцы аграгандлёвай фірмы «Днепр». Насенне далікатэсу і тэхналогію яго вырошчвання перадалі магіляўчанам агароднікі цяплічнага камбіната «Насегнева» Влоцлаўскага ваяводства ПНР — партнёры па працоўнаму спаборніцтву. Беларускія земляробы, у сваю чаргу, забяспечылі калег насеннем двух новых гатункаў гуркоў мясцовай селекцыі. Цяпер такі абмен стане пастаянным. У бягучым годзе гародніны і фруктаў у адну і другую фірмы будзе пастаўлена на сто тысяч рублёў.

Дзелавыя сувязі і прамыя кантакты агароднікі аграгандлёвай фірмы «Днепр» і цяплічнага камбіната «Насегнева» развіваюць па праграме супрацоўніцтва рэгіёнаў-пабрацімаў, якія звязвае адзінаццацігадовая дружба.

КАМП'ЮТЭРЫЗАЦЫЯ

## ПАМІРЫЛА ЭЛЕКТРОНІКА

У вытворчым аб'яднанні «Наваполацкнафтааргсінтэз» упершыню ў галіне на змену звычайнай і не вельмі дакладнай вымяральнай тэхніцы прыйшлі камп'ютэрныя сістэмы з тэнзаметрычнымі вагамі. У імгненне вока разумная тэхніка выдае на дысплей усе даныя аб «брута» і «нета» і тут жа запаўняе накладныя на адпраўку чыгуначных цыстэрн спажыўцам.

Бесстаронні арбітр працуе без рэкламацый, значна спрасціўшы ўвесь працэс здачы і прыёмкі грузу. Цяпер замест дзесяткаў кантралёраў-вымяральнікаў, без валакіты і затрымак адпраўляюць саставы некалькі аператараў.

ДЭМАГРАФІЯ



Да нядаўняга часу, гаворачы пра насельніцтва Гомеля, падкрэслівалі: амаль паўмільёна. 12 сакавіка патрэба ў гэтым «амаль» адпала. У абласной бальніцы нарадзілася пяцісоттысячная жыхарка горада над Сожам, першынец медсястры Валянціны Таўстаногавай і яе мужа Ігара, вадзіцеля аўтабазы. Назвалі дзяўчынку Каця.

З нагоды нараджэння паўмільённага жыхара бацькам быў уручаны спецыяльны памятны медаль і ключ ад новай кватэры. Што ж сабой уяўляе цяпер ужо паўмільённы Гомель у дэмаграфічных адносінах? У горадзе пражываюць людзі 82 нацыянальнасцей. Сярод іх ёсць французы, італьянцы, іспанцы, нават курды. Беларусы складаюць большасць—64 працэнты. Сярэдні ўзрост гамяльчан 31 год. Чвэрць насельніцтва—124 тысячы—складае моладзь ва ўзросце да 16 год.

НА ЗДЫМКУ: шчасця і здароўя жадае маленькай Каці і яе бацькам урач В. ПАЛУБЕЦ.

ФОНД КУЛЬТУРЫ

## РАБОЧАЯ ПАДТРЫМКА

Савет садзейнічання Беларускаму фонду культуры створаны на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній імя Машэрава. Члены яго ад імя сваіх калектываў выказалі жаданне прымаць больш актыўны ўдзел у культурных мерапрыемствах, паглыбляць сувязі з творчымі саюзамі рэспублікі. З іх дапамогай рабочыя маркуюць стварыць на прадпрыемстве куток памяці П. Машэрава.

Многія гады шэфам завода з'яўляецца Саюз пісьменнікаў БССР. Рыхтуецца да друку кніга нарысаў, прысвечаных лепшым працаўнікам прадпрыемства. Яе аўтары пісьменнікі І. Навікаў, У. Ліпскі, Л. Левановіч, У. Рубанаў і іншыя.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ



На гэтым здымку — дацэнт кафедры прыкладной геадэзіі Наваполацкага політэхнічнага інстытута кандыдат тэхнічных навук Віктар СІБІРЦАЎ са створаным ім лічбавым тэадалітам. Ад існуючых прыбор адрознівае больш высокая дакладнасць і прастата ў абыходжанні. Ідзе падрыхтоўка да выпуску прамысловай серыі лічбавых тэадалітаў.

ПРАПАНУЮЦЬ КААПЕРАТЫВЫ

## МАГАЗІН У МАГАЗІНЕ

Брэсцкі цэнтральны універмаг прадаставіў свае прылаўкі кааператывам і асобным грамадзянам, якія займаюцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. У спецыялізаванай секцыі, якая адкрылася тут, прадаецца нямала вырабаў павышанага попыту: моднае маладзёжнае адзенне, абутак, галантарэя, арыгінальныя, часам непаўторныя вырабы народных умельцаў і нават запчасткі для аўтамабіляў.

Нядаўна тут быў праведзены першы ў вобласці кірмаш. У ходзе яго спецыялісты гандлёвых баз атрымалі самае поўнае ўяўленне аб прадукцыі і магчымасцях «прадпрымальнікаў», дамовіліся аб пашырэнні асартыменту і выпуску некаторых асабліва папулярных зараз тавараў. У выніку гандаль заключыў з імі дагавораў больш чым на 160 тысяч рублёў.

СПАДЧЫНА

## РЭСТАЎРАЦЫЯ ПОМНІКА

Набывае першапачатковыя абрысы архітэктурны помнік мінулага, які ў Пружанах усе добра ведаюць пад назвай «Белыя лаўкі».

Рэстаўрацыйныя работы тут вядуць спецыялісты Гродзенскай міжабласной навукова-вытворчай майстэрні. У адным з будынкаў «гандлёвых радоў» размесціцца раённая бібліятэка з прасторнай чытальнай залай і кнігасховішчам. Побач з ёю — краязнаўчы музей. У ходзе рэстаўрацыі таксама выяўлена нямала цікавых знаходак: пасуда даўніх часоў, старонкі газет. Многія з гэтых рэчаў стануць экспанатамі музея.

КОЛАСАЎСКІЯ МЯСЦІНЫ

## ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ПЕСНЯРУ

Без падручнікаў абыходзяцца ў гэтыя дні на ўроках беларускай літаратуры навучэнцы пінскіх школ. І праходзяць заняткі не за партамі, а ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся. У адной з яго залаў адкрыта выстаўка «Якуб Колас у Пінску».

Жыццё і творчасць паэта цесна звязаны з Палессем і горадам над Пінай. У 1904—1906 гадах Якуб Колас настаўнічаў у Пінкавічах. Час знаходжання ў гэтай вёсцы стаў перыядам фарміравання прагрэсіўных поглядаў народнага настаўніка.

У Пінску Колас пазнаёміўся з настаўніцай Марыяй Каменскай. У 1913 годзе яна стала яго жонкай. Неўзабаве тут жа, у Пінску, у іх нарадзіўся сын.

За гады, пражытыя ў палескай глыбінцы, Якуб Колас напісаў нямала вершаў і апавяданняў, пачаў работу над паэмай «Сымон-музыка».

Імя народнага паэта Беларусі носяць адна з вуліц Пінска і Пінкавіцкая сярэдняя школа.



# ШКОЛА-КАМУНА Ў ЛІТВІНАВІЧАХ

*ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАНЦЕЛЯЙМОНА ЛЕПЯШЫНСКАГА*

Ішоў 1918 год. Маладая Савецкая рэспубліка, ашчацініўшыся штыкамі, не на жыццё, а на смерць адбівалася ад унутраных і знешніх ворагаў. Было галодна і халодна. Але жыла ў сэрцы Леніна, партыі бальшавікоў упэўненасць у перамозе над ворагамі, тыфам і голадам. Яна яднала рабочых, сялян, дапамагала выстаяць у самых складаных абставінах. Гэтай верай жыў і Панцеляймон Лепяшынскі. Зазіраючы ў дзень заўтрашні, ён думаў аб перабудове старой школы, выхаванні новага чалавека, марыў пра стварэнне працоўных школ-камун, у якіх бы спалучалася навучанне, выхаванне і карысная праца.

Сваімі планамі аб стварэнні школы-камуны і аб'яднанні мясцовага сялянства ў сельскагаспадарчую камуну ў сяле Літвінавічы Магілёўскай губерні, дзе прайшло яго дзяцінства, П. Лепяшынскі падзяліўся з У. І. Леніным. Па распараджэнню правадыра для будучай школы былі выдзелены прыборы для фізічнага кабінета, дынамамашына, праекцыйны, ці, як яго называлі ў той час, чароўны ліхтар, кніжкі, сшыткі, алоўкі. Рабочыя аднаго з заводаў Масквы, даведаўшыся пра намер Панцеляймона Мікалаевіча, падарылі сталярны і слясарны інструмент, абсталяванне для пераплётнай майстэрні. Прывезлі нават швейную машыну і піяніна...

Восенню П. Лепяшынскі адправіўся ў дарогу. Разам з ім ехалі Вольга Лепяшынская, іх дачка, таксама Вольга, і настаўнік Міхаіл Кернажыцкі. Ад Масквы да Літвінавіч шлях няблізкі. Да Рослаўля Смаленскай губерні даехалі па чыгунцы. Астатнія 180 вёрст — на конях. Сем вазкоў, добра напакаваных розным школьным рыштункам, павольна рухаліся наперад. Навокал, колькі бачыла вока, адкрываліся родныя краявіды. Імжэў асенні дождж, водар апусцелай пожні хваляваў сэрца. Дарагі, любы край!.. Недзе там, за лесам, схавалася родная вёска Студзянец Клімавіцкага павета, дзе 14 сакавіка 1868 года ён з'явіўся на свет. Успомніўся бацька, сельскі свяшчэннік, які ўсё сваё жыццё пражыў у вёсцы, блізка да сэрца прымаючы сялянскія нягоды.

Высокім аўтарытэтам у сям'і карысталася і маці Клаўдзія Лепяшынская-Зубкоўская. Яна скончыла гімназію, любіла літаратуру, музыку, аддавала свае здольнасці сям'і і дзецям.

У 1874 годзе, калі старэйшаму з дзяцей, Панцеляймону, споўнілася шэсць гадоў, Лепяшынскія пераехалі ў вёску Літвінавічы, у той час Рагачоўскага павета. Хлопчык рана вывучыў азбуку і з ахвотай чытаў малодшым братам і сёстрам казкі, любіў гульні, вандраванні па мясцовых лясах.

У дзевяць гадоў бацькі адвезлі сына ў Магілёў-на-Дняпры і ўладкавалі ў мужчынскую класічную гімназію, дзе ў яго праявіліся выключныя здольнасці. Панцеляймон без цяжкасцей спасцігаў літаратуру, матэматыку, замежныя мовы, добра маляваў, разам з іншымі выхаванцамі ўпотай ад выкладчыкаў чытаў творы рэвалюцыянераў - дэмакратаў, удзельнічаў у тайных гуртках. У 1886 годзе П. Лепяшынскі з выдатным атэстатам скончыў гімназію і восенню гэтага ж года стаў студэнтам фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Вучыцца было нялёгка. Чакаць дапамогі ад бацькоў не даводзілася: у сям'і падрасталі дзевяцёра малодшых братоў і сясцёр. Стыпендыі, што атрымліваў за добрую вучобу, не хапала, і, каб звесці канцы з канцамі, ён пачаў зарабляць выпадковымі ўрокамі. Ва універсітэце Лепяшынскі ўдзельнічаў у рабоце народніцкага гуртка, узначальваў беларускае зямляцтва. Тут атрымаў першую п[illegible]чную загартоўку, разам з іншымі студэнтамі патрабаваў выгнання рэакцыйных выкладчыкаў, выступаў на сходках. Паліцыя даведалася пра гэта. Неўзабаве ён быў выключаны [illegible] іверсітэта і высланы з Пецярбурга. Вясной 1891 года Лепяшынскаму дазволілі здаць дзяржаўныя экзамены ў Кіеўскім універсітэце.

З жаданым дыпломам настаўніка ён спрабуе ўладкавацца на працу, але «нядобранадзейнаму» ўсюды адмаўляюць. У 1892 годзе Лепяшынскі пераязджае ў Севастопаль і ўладкоўваецца канторшчыкам ва ўпраўленні чыгункі. Разам з іншымі служачымі праводзіць забастоўку, дамагаецца скарачэння рабочага дня. Паліцыя заносіць пецярбургскага «бунтаўшчыка» ў чорны спіс. Гэта прымусіла Лепяшынскага пакінуць Севастопаль і зноў вярнуцца ў Пецярбург, дзе ён наладзіў сувязь з групай народавольцаў.

14 месяцаў правёў Панцеляймон Мікалаевіч у адзіночцы. Зняволенне дапамагала перанесці Вольга Барысаўна, дачка багатага прамыслоўца Пратапопава, з якой ён пазнаёміўся яшчэ да арышту на адной вечарыне, наладжанай сацыял-дэмакратамі. З дазволу турэмнага начальства яна перадавала Панцеляймону Мікалаевічу кніжкі, часопісы, слоўнікі. У турме ён пазнаёміўся і пасябраваў з А. Ванеевым, П. Запарожцам, Г. Кржыжаноўскім, «ульянаўскімі арламі», як ён называў іх, тут ён канчаткова самавызначыўся як марксіст.

У студзені 1897 года Лепяшынскі быў асуджаны да высылкі на тры гады ў Сібір. Разам з Панцеляймонам Мікалаевічам паехала і Вольга Барысаўна. У сяле Казачынскім Енісейскага павета, дзе Панцеляймон Мікалаевіч адбываў ссылку, пакутавалі і іншыя рэвалюцыянеры. Лепяшынскія адразу ж пасябравалі з імі, падтрымлівалі адзін аднаго.

Панцеляймону Мікалаевічу стала вядома, што ў Шушанскім адбывае ссылку Уладзімір Ільіч Ленін. Хацелася пазнаёміцца з ім, быць побач. Лепяшынскі хадайнічае аб пераводзе ў Шушанскае. Вядома, такога дазволу паліцыя не дала, але перавяла Лепяшынскага ў сяло Ермакоўскае. Да Шушанскага адсюль было рукой падаць. Пераезд у Ермакоўскае паклаў пачатак знаёмству Лепяшынскіх з Уладзімірам Ільічом Леніным і Надзеяй Канстанцінаўнай Крупскай. Яны з радасцю сустрэлі вестку аб I з'ездзе РСДРП, які адбыўся ў Мінску. Панцеляймон Мікалаевіч дапамагаў У. І. Леніну ў падборы матэрыялаў для яго кнігі «Развіццё капіталізму ў Расіі». Тут у ліку 17 ссыльных падпісаў «Праект расійскіх сацыял-дэмакратаў супраць «эканамістаў», тут разам з паплечнікамі Уладзімір Ільіч на кватэры Лепяшынскіх абмяркоўваў праект стварэння газеты «Искра». Яны жылі будучыняй, марылі аб свабодзе, барацьбе.

— Пра вас я падумаў асабліва, — сказаў Уладзімір Ільіч Лепяшынскім. — Пасля ссылкі вы паедзеце спачатку ў Омск. Я ўжо спісаўся з галоўным урачом Омскай чыгуначнай бальніцы, доктарам Фраловым. Ён даў згоду прыняць Вольгу Барысаўну да сябе на работу фельчарыцай. Там вы пажывіце, пакуль я не выклічу вас для падпольнай работы.

Усё адбылося, як было задумана Уладзімірам Ільічом. У 1900 годзе Лепяшынскі па выкліку Леніна выехаў у Падольск, дзе атрымаў ад яго інструкцыі па наладжванню ў Пскове апорных пунктаў рэдакцыі газеты «Искра». Лепяшынскі стаў прафесійным рэвалюцыянерам.

Кіруючы пскоўскай іскраўскай групай, Лепяшынскі інфармаваў «Искру» аб рабочым і грамадскім руху ў Расіі, высылаў неабходную літаратуру, грошы, сам пісаў допісы аб становішчы сялян, прымаў з-за мяжы рэвалюцыянераў, забяспечваў пашпартамі і яўкамі. Сярод матэрыялаў, якія дасылаліся ў «Искру», было нямала карэспандэнцый з Мінска, Гродна, Магілёва, Віцебска.

У. І. Ленін высока цаніў дзейнасць пскоўскай групы, шчыра дзякаваў за работу па скліканню II з'езда РСДРП і стварэнню марксісцкай партыі ў Расіі. Між тым працаваць было ўсё цяжэй і цяжэй. Філёры не давалі Лепяшынскаму спакою, сачылі за кожным крокам. У ноч на 4 лістапада 1902 года ён быў арыштаваны і высланы на шэсць гадоў пад нагляд паліцыі ва Усходнюю Сібір.

У верасні 1903 года ён здзейсніў дзёрзкія ўцёкі, рызыкуючы кожную мінуту быць схопленым, прыбыў у Жэневу. У. І. Ленін даручыў яму весці пратаколы пасяджэнняў Савета партыі, стварыць бібліятэку і архіў ЦК РСДРП. Ён удзельнічаў у падрыхтоўцы III з'езда партыі.

Першую расійскую рэвалюцыю Лепяшынскі сустрэў з уздымам. Як і ўсе рускія эмігранты, ён пачаў збірацца ў дарогу. У снежні 1905 года выехаў у Пецярбург. Аднак доўга пратрымацца ў сталіцы не змог. Царская ахранка амаль адразу натрапіла на яго след. Лепяшынскі выехаў да сям'і ў Літвінавічы, а ў 1907 годзе пераехаў у Оршу, дзе пачаў працаваць у рэальным вучылішчы, на чыгуначнай станцыі аднавіў арганізацыю РСДРП. Паліцыя даведалася пра яго рэвалюцыйную дзейнасць. Гэта прымусіла Лепяшынскага шукаць новае месца жыхарства і працу.

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі Лепяшынскі па заданню партыі зноў у Оршы, якая мела важнае стратэгічнае значэнне. Аршанцы выбіраюць Лепяшынскага старшынёй гарадской думы. У кастрычніцкія дні 1917 года ён аб'ядноўвае рабочых Оршы, затрымлівае карнілаўскія цягнікі, што рваліся на падаўленне рэвалюцыі ў Маскве і Петраградзе, усталёўвае ў Оршы Савецкую ўладу.

...За пяць дзён дарогі многае прыгадаў Панцеляймон Мікалаевіч. Ні аб чым ён не шкадаваў. Наперадзе была праца, дзеля якой ён змагаўся, сядзеў у турмах.

Вось, нарэшце, Літвінавічы. На другі ж дзень Панцеляймон Мікалаевіч наведаў Кармянскі валасны выканком.

— Ну што ж, уладкоўвайцеся, — выслухаўшы Лепяшынскага, сказаў старшыня. — Становішча, праўда, у Літвінавічах неспакойнае. Контррэвалюцыя не здаецца. Час ад часу нават абрэзы ў ход пускаюць...

— Я ведаю, што без цяжкасцей нам не абысціся, — сказаў Лепяшынскі. — Але ж калі мы будзем баяцца контррэвалюцыі, абрэзаў, дык хто ж пачне будаўніцтва новага грамадства...

І закіпела работа. Вестка аб прыездзе Панцеляймона Мікалаевіча, [illegible] жонкі, дачкі і настаўніка [illegible]нажыцкага маланкай абляцела Літвінавічы. Толькі і размоў было пра тое, што Лепяшынскі будзе ствараць сельскагаспадарчую камуну і школу-камуну.

Першымі ў госці завіталі дзеці, к[illegible]ла ім пабачыць дзядзьку [illegible]пяшынскага, які ад Леніна прыехаў школу ствараць. Сабралася каля 40 хлопчыкаў і дзяўчынак. З імі і распачаліся заняткі. Вучоба чаргавалася з працай у майстэрнях, на школьным агародзе. Пад наглядам настаўнікаў дзеці шылі сабе вопратку, гатавалі ежу, прыбіралі памяшканні, майстравалі мэблю.

П. Лепяшынскі вёў шырокую грамадскую работу сярод сялян Рагачоўскага павета, быў старшынёй Кармянскага валаснога аб'яднання РКП(б). Тут, у Літвінавічах, была напісана драма «Чырвонае па чорнаму», а таксама раман «Барацьба і творчасць».

Пад кіраўніцтвам П. Лепяшынскага ў Літвінавічах адкрылася школа і для дарослых. Наладжваліся гутаркі, вялася работа па запісу сялян у сельскагаспадарчую камуну. Гэта не спадабалася мясцовым кулакам. Аднойчы яны прыйшлі да Панцеляймона Мікалаевіча.

— Вось што, Панцюха, — сказаў адзін з іх. — Быў бы ты папом, рукі б табе цалавалі, маліліся б на цябе. А будзеш камуну ўводзіць, заб'ём...

Пагроза не напалохала П. Лепяшынскага. Ён працягваў пачатую справу і не пакінуў яе нават тады, калі ў Карме ўспыхнуў контррэвалюцыйны мяцеж, да якога далучыліся і некаторыя несвядомыя сяляне. Хутка мяцеж быў падаўлены. Найбольш актыўных удзельнікаў выступлення арыштавалі. Спецыяльна складзеная камісія, якая ўключала следчых і мясцовых партыйных работнікаў, прыгаварыла да вышэйшай меры пакарання 7 удзельнікаў мяцяжу. П. Лепяшынскі звярнуўся ў Магілёўскую надзвычайную камісію з просьбай не прымяняць да сялян, якія па несвядомасці трапілі пад уплыў эсэраў і кулакоў, суровага прыгавору. Ён лічыў дастатковым прысудзіць іх да прымусовых работ. Але думка Лепяшынскага ўлічана не была. У сваіх пісьмах у ЦК РКП(б) і ў Магілёўскі губком П. Лепяшынскі з абурэннем пісаў: «Калі Надзвычайныя Камісіі засвояць практыку поўнага ігнаравання голасу мясцовых партыйных людзей, якія вельмі часта сваёй дакладнай ацэнкай сітуацыі могуць забяспечыць правільны курс следчай работы, то ў нас будзе ў наяўнасці аграмністая маса непатрэбных пакаранняў смерцю...»

Працу П. Лепяшынскага і яго паплечнікаў спыніла наступленне польскіх легіянераў. Школа разам з вучнямі пераехала ў Маскву. Прызнаннем набытага П. Лепяшынскім вопыту ў культурна-асветнай рабоце з'явілася заданне У. І. Леніна дапамагчы працоўным Туркменістана ў наладжванні народнай асветы.

Перад ад'ездам П. Лепяшынскі сустрэўся з У. І. Леніным.

— Галоўнае ў рабоце — ні ценю шавінізму! Ніводнага атама русіфікатарскіх замашак! — навучаў Уладзімір Ільіч.

Прызначаны намеснікам наркома асветы Туркменіі, П. Лепяшынскі дабіўся значных перамен у культурна-асветнай справе. Палепшылася таксама падрыхтоўка настаўнікаў, пачалі працаваць інстытуты народнай асветы, адкрыўся Туркестанскі дзяржаўны універсітэт. Шмат было зроблена для наладжвання прафесійна-тэхнічнай адукацыі, развіцця тэатральнага мастацтва.

Пазней, успамінаючы ленінскі наказ і сваю працу ў Туркменіі, П. Лепяшынскі з задавальненнем адзначаў, што ён не пагрэшыў супраць гэтага запавету, бо перасцерагальны голас Ільіча трымаў яго палітычнае сумленне ў стане пастаяннай насцярожанасці ў час культурна-асветнай працы ў адной з самых прыгнечаных ускраін былой Расійскай імперыі.

У 1921—1924 гады па рашэнню ЦК РКП(б) П. Лепяшынскі быў накіраваны на работу ў Камісію па распрацоўцы гісторыі РКП(б). У гэты перыяд былі напісаны ўспаміны пра У. І. Леніна, а таксама пра вялікую плеяду яго паплечнікаў.

П. Лепяшынскі шмат сіл і энергіі аддаў стварэнню і дзейнасці міжнароднай арганізацыі дапамогі змагарам рэвалюцыі. Яна аказала вялікую падтрымку вязням капіталістычных турмаў, мацавала класавую салідарнасць і інтэрнацыяналізм.

Такую ж энергію і мэтанакіраванасць П. Лепяшынскі праяўляў, працуючы ў 1927 годзе дырэктарам Гістарычнага музея, а ў 1935—1936 гадах — Музея рэвалюцыі ў Маскве.

У дзень свайго 75-годдзя П. Лепяшынскі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ён выбіраўся дэлегатам XIV—XVII з'ездаў партыі, XV—XVII канферэнцый ВКП(б).

П. Лепяшынскі пражыў вялікае, насычанае жыццё, неадрыўна звязанае з лёсам Савецкай краіны, з лёсам партыі. Былі слаўныя перамогі і незаменныя страты. Як найвялікшае асабістае гора перажываў ён смерць У. І. Леніна. Суцяшала адно: жыла партыя, яна працягвала яго справу. Калі не стала мудрага дарадчыка, ён, як і іншыя верныя ленінцы, рабіў усё магчымае, каб жыў ленінізм, мацнела Савецкая Радзіма. У той жа час ён бачыў хібы і адступленні ад ленінізму. Ён ведаў, што навіслую над партыяй небяспеку адчуваў У. І. Ленін, які выношваў план аздараўлення партыі. Увасобіць яго перашкодзіла хвароба. П. Лепяшынскі ў сваіх допісах, пакінутых нам у спадчыну, паведамляе аб гэтым. Ён дзеліцца таксама сваімі меркаваннямі аб выпрамленні партыйнай лініі, устанаўленні сапраўднага дэмакратызму.

Да апошніх дзён П. Лепяшынскі жыў жыццём партыі, думаў аб яе гістарычнай місіі і нялёгкім лёсе, верыў у яе магутныя стваральныя сілы.

Памёр Лепяшынскі 30 верасня 1944 года.

Мікалай **КУЗНЯЦОЎ.**

